Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №4(99), сакавік, 2019г.

# УСКЛАДАННЕ КВЕТАК У ДЗЕНЬ ВОЛІ

**Віцебскія актывісты і прадстаўнікі дэмакратычных партыяў традыцыйна адзначылі Дзень Волі ўскладаньнем кветак да помнікаў князю Альгерду і Караткевічу.**

Кветкі ляглі таксама да памятнай дошкі Васілю Быкава на будынку мастацкай школы №1 і да мэмарыялу, усталяванаму каля Усьпенскага сабору на месцы пахаваньня нявінна забітых грамадзянаў.

Да помніку князю Альгерду 24 сакавіка прыйшлі больш за 20 віцяблянаў з кветкамі і нацыянальнымі сымбалямі.

“Зьбіраемся каля помніку Альгерду з адной простай прычыны. **Бо ў Віцебску няма месца ў цэнтры гораду, дзе б было дазволена праводзіць масавыя мерапрыемствы. Наша даражэнькая ўлада адсылае любых нязгодных на ўскрайкі гораду.** Таму вось такі крыху бледны і куртаты фармат. Але як ёсьць. Віншуйма адзін аднаго зь вялікай датай і ўскладайма кветкі”, – заклікаў кіраўнік абласной арганізацыі партыі БНФ Канстанцін Смолікаў.

Ён таксама выказаў надзею, што ў будучым у віцяблянаў “атрымаецца зладзіць больш урачыстае сьвята – з канцэртамі, фудкортамі, выступамі вядомых асобаў”.

Ад помніку Альгерду актывісты накіраваліся да магілы ля сьцяны Усьпенскага сабору, дзе ў 2005 годзе былі перапахаваныя чалавечыя парэшткі, знойдзеныя падчас земляных працаў на аднаўленьні сабору.

Заснавальнік грамадзянскай ініцыятывы “Хайсы” **Ян Дзяржаўцаў**, спасылаючыся на віцебскага гісторыка **Ігара Цішкіна**, адзначыў у сваёй прамове, што людзі, чые парэшткі перапахаваныя на гэтым месцы, былі ахвярамі сталінскага тэрору. Памяць нявінна забітых ушанавалі хвілінай маўчаньня.

Бел-чырвона-белыя ружы ляглі і да мэмарыяльнай дошкі Васілю Быкава.



“Калі б Быкаў жыў у той час, ён быў бы сярод айцоў-заснавальнікаў БНР”, – выказаў здагадку Кастусь Смолікаў.

Удзельнікі ўшанаваньня ўсклалі таксама кветкі да помніку Ўладзімеру Караткевічу ў Віцебску. З надыходзячым сьвятам удзельнікаў віншавалі актывістка БХД **Тацяна Севярынец**, старшыня Віцебскага аддзяленьня Руху “За Свабоду” **Хрыстафор Жаляпаў**, старшыня гарадзкой арганізацыі АГП **Ірына Яскевіч** ды іншыя.

Усё, што адбывалася падчас ускладаньня кветак, фіксавалі на фота- і відэакамэры супрацоўнікі міліцыі ў цывільным адзеньні. Затрыманьняў у гэты вечар не было.

Сьвяткаваньне БНР-101 у Віцебску працягнулася ў арт-пабе “Торвальд”, дзе 24 сакавіка выступіў вядомы беларускі сьпявак Зьміцер Вайцюшкевіч.

*Зьміцер Міраш, фота аўтара vitebskspring.org*

# ВІНШАВАНЬНЕ

**Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла зьвярнулася да беларусаў з нагоды Дня Волі і 101-й гадавіны абвяшчэньня III Устаўной граматы Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Дарагія мае суродзічы-беларусы!

У гэты першы Дзень Волі другога стагодзьдзя нашай Рэспублікі хочу падзяліцца з вамі маім захапленьнем: нягледзячы на ўсе зьдзекі, на фізычнае нішчэньне найлепшых сыноў і дачок нашага народу, на прапаганду, якая прадаўжаецца да сёньня; нягледзячы на стараньне ворагаў, каб сьцерці наш край з паверхні Зямлі – мы выжылі!

Беларусь – жыве!

Другое стагодзьдзе нашай сучаснай дзяржавы пачалося, нажаль, узмоцненай прапагандысцкай атакай супраць яе. Але за апошнюю чверць стагодзьдзя беларусы навучыліся разважаць іншымі катэгорыямі і ведаюць розьніцу між воляй і рабствам. Многія беларусы, перадусім з маладога пакаленьня, на свае вочы пабачылі, як заможна жывуць нават маленькія дзяржавы, якія не заўсёды маюць прыродныя багацтвы, але якія маюць таленавітае і працавітае грамадзтва, якое супольна працуе на дабрабыт свайго народу.

Беларускай моладзі ня трэба даказваць, што супольнасьць пасьпяховых, адукаваных і вольных грамадзянаў – гэта самы важны рэсурс краіны. Спатканьні мае з маладымі беларусамі напаўняюць сэрца радасьцю: гэта золата, якое мы павінны цаніць.

Дык зьвяртаюся сёньня перад усім да Вас, мае дарагія маладыя сябры! Бо Вы здольныя выратаваць наш край ад новай няволі. Вы разумееце пачуцьцё годнасьці вольнага чалавека. Вы ведаеце, хто Вы!

Віншую ўсіх Вас, мае дарагія суродзічы, асабіста і ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, з новым, другім стагодзьдзем ад абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі і жадаю, каб змаганьне за волю было плённым і пераможным!

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвілла,Старшыня Рады БНР

Сакавік 2019 г.

Магістрат
**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
VK.COM/PARTYJA_BNF
**WWW.MOLADZ.INFO**
VK.COM/BNF_MOLADZ

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**
**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
**ААТ «Банк БелВЭБ»**
**г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100**
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 30151001470040226000**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# БАРЫС ХАМАЙДА: МЫ ЎЖО 23 ГАДЫ ЖЫВЕМ БЕЗ ЛЕГІТЫМНАЙ КАНСТЫТУЦЫІ!..

Сьвяткуем 25-годзьдзе Канстытуцыі, але 23 зь іх наогул ня маем ніякай легітымнай Канстытуцыі, сьцьвярджае легендарны віцебскі дысыдэнт **Барыс Хамайда.** Тлумачыць, чаму так, і адказвае старшыні Цэнтарвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай, якая нядаўна прапанавала ўносіць зьмены ў Асноўны Закон без рэфэрэндумаў.

**"Шаноўная спадарыня Ярмошына..."**

"Справа ў тым, што ўсё гэта незаконна: мы ўжо амаль 23 гады як увогуле ня маем ніякай легітымнай Канстытуцыі. Тады, у лістападзе 1996-га, адбыўся антыканстытуцыйны пераварот. А вось гэтая, нібыта дзейная, Канстытуцыя – яна нелегітымная і не прызнаная міжнароднымі прававымі структурамі. Таму зараз мы жывем у прававым вакууме.

І ў сувязі з гэтым ня маем аніводнага легітымнага органу ў краіне, ня маем аніводнага легітымнага кіраўніка – зь верху да нізу. Ня маем аніводнага легітымнага закону альбо пастановы. Ну дык і Ярмошына можа што заўгодна казаць. Бо гэта – па нейкіх крымінальных "паняцьцях", атрымліваецца..."

**Трэба вяртацца да Канстытуцыі 1994 году**

"Трэба вяртацца да легітымнай Канстытуцыі 1994 году і тады ўжо вырашаць усе пытаньні. Гэтая Канстытуцыя была прынятая, можна сказаць, кансэнсусам. Тады ж Вярхоўны Савет быў пракамуністычны, больш за 90% сябраў КПСС было там. Але ўсе прызнавалі тую Канстытуцыю.

Таму – вяртацца да яе і праводзіць нармалёвыя выбары.

І вось пытаньне: дык куды мы 23 гады ішлі? А мы нікуды ня йшлі! Мы жылі ў чорнай дзірцы. Проста гублялі час. І краіна, і кожны з нас паасобку – гэтыя 23 гады гублялі час..."

**"Мая Канстытуцыя хутка прыйдзе!"**

"Я працягваю жыць паводле нязьмененай Канстытуцыі 1994 году. Так, цяжка, канечне. Але спрабую. Я ня ўдзельнічаю ні ў якіх псэўдавыбарах, не вылучаюся на нейкія выбарныя пасады. Для мяне гэтага папросту не існуе. Вось тут, ля "сіняга дому" мой кавалачак зямлі, тут – мой асяродак Беларушчыны. Усё!.."

"...Так, у мяне шмат штрафаў. І я не магу абскардзіць ніводную пастанову. Бо – няма куды абскарджваць: няма легітымных судоў, няма легітымнай пракуратуры. Няма куды! Калі пачну абскарджваць, дык дэфакта прызнаю, што жыву паводле нелегітымнай Канстытуцыі. А я па ёй не жыву! Гэта іхняя канстытуцыя, яны па ёй жывуць. І хай жывуць. А мая Канстытуцыя хутка прыйдзе!"

(У чацьвер 14 сакавіка, празь 15 хвілінаў пасьля гэтага інтэрвію, Барыс Хамайда быў затрыманы каля "сіняга дому" у Віцебску міліцыянтамі. Яго абвінавацілі ў "загрувашчваньні вуліцы". Пратакол ён не падпісаў. - ВВ).

**"У 1996-м мы былі маленькімі дзецьмі – нас падманулі"**

"Атрымліваецца, што мы ў 1996 годзе (у год правядзеньня рэфэрэндуму - ВВ) былі маленькімі дзецьмі. І нас папросту падманулі. І вось прайшло шмат часу. Я лічу, што гэта быў пэрыяд узрастаньня, мы пазбаўляліся "саўковасьці", савецкасьці. І зараз трэба нешта рабіць.

Бо без легітымнай Канстытуцыі ў нас нічога не атрымаецца. Нам ніхто ня дасьць крэдытаў, ніхто ня дасьць тэхналёгіяў, з намі ніхто ня будзе сур'ёзна супрацоўнічаць у эканоміцы..."

**"Паводле дзейнай Канстытуцыі, крыніца ўлады – улада..."**

"Вядома ж, так званая дзейная Канстытуцыя захавала прыгожыя артыкулы пра тое, што адзінай крыніцай улады ёсьць народ і што найвялікшай каштоўнасьцю ёсьць чалавек.

Але чаму гэта ўсё не выконваецца? Таму што калі б выконвалася – то гублялася б улада. А ўсё робіцца, каб яна ўмацоўвалася.

Таму і ўнесьлі ў так званы рэфэрэндум 2004 году пытаньне аб неабмежаваным тэрміне прэзыдэнцтва. У ранейшай было толькі два тэрміны, нагадаю. І вось жа: паводле дзейнай Канстытуцыі, адзінай крыніцай улады ёсьць не народ, а сама ўлада..."

**"Слухайце, Канстытуцыя – гэта свабода"**

"Ці сьвята для мяне Дзень Канстытуцыі? Натуральна, што так. Ведаеце, першыя гады пасьля прыняцьця Канстытуцыі я з плякатамі сюды выходзіў, асабліва тады, калі адбыўся антыканстытуцыйны пераварот. А зараз сьвяткую асабіста. Таму што без Канстытуцыі нічога няма. Гэта падмурак дзяржаўнасьці, краевугольны камень.

І Канстытуцыя 1994 года вельмі моцна трымала б нас сёньня, калі ёсьць вялікая небясьпека згубы незалежнасьці...

Мне кажуць: а што з Канстытуцыі сыты будзеш? Слухайце, Канстытуцыя – гэта свабода. І калі мы адмаўляемся ад свабоды, то ў нас зь цягам часу і кавалку кілбасы ня будзе!.."

*Запісаў Зьміцер Міраш*

# НА ПАРЛАМЕНТСКИХ ВЫБОРАХ ОППОЗИЦИЯ ВОЗЬМЕТ НА ТОТАЛЬНЫЙ КОНТРОЛЬ 18 ОКРУГОВ

**Восемь оппозиционных организаций проведут кампанию наблюдения «Право выбора» на предстоящих парламентских выборах.**

Как заявили представители этих организаций подписано соглашение о совместном проведении мобилизационной кампании для активного наблюдения на предстоящих выборах. Для наблюдения планируется выдвинуть около 1,5 тысячи человек.

Участники кампании намерены выдвинуть кандидатов в депутаты Палаты представителей своих партий и организаций. На 18-ти округах, где будут баллотироваться оппозиционные кандидаты, и будет организовано совместное наблюдение.

«Наши представители уже сейчас работают по содействию решения местных проблем, а также мобилизации жителей районов для участия в наблюдении за выбоорами, — сказал председатель БСДП **Игорь Борисов**. — Важная задача кампании «Право выбора» — организовать наблюдение не только силами партийных активистов, но и привлечь к совместной работе новых, далеких от политики людей».

Политики предполагают, что парламентские выборы могут быть назначены в конце текущего года, поэтому старт кампании наблюдения с начала февраля они не считают преждевременным.

«Мы ответственно заявляем, что демократические силы готовы объединиться для совместной борьбы за восстановление демократических принципов, за право белорусов избирать, контролировать и изменять свою власть», — заявил председатель Партии БНФ **Григорий Костусев.**

«Люди ждут от нас лидерства и помощи в том, чтобы их жизнь становилась лучше. И мы делаем для этого конкретные дела по всей стране. Это единственный путь, чтобы переубедить людей, что свободные выборы нужны не партиям, а простым гражданам», — добавила сопредседатель оргкомитета БХД О**льга Ковалькова.**

В ближайшие два года в Беларуси пройдут президентские и парламентские выборы. Согласно законодательству, выборы в Палату представителей должны пройти не позднее 10 сентября 2020 года, президента — не позднее 30 августа 2020-го. В связи с этим не исключено, что одна из избирательных кампаний состоится в 2019 году.

Сергей КОРОЛЕВИЧ

# ПЕТЫЦЫЯ АБ АДСТАЎЦЫ РЭКТАРА ВІЦЕБСКАГА ДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА УНІВЕРСІТЫТА

На сайце генератара петыцый **petitions.by** створаны запіс аб адстаўцы рэктара Віцебскага дзяржуніверсітэта **Аляксея Ягорава.**

На думку аўтара пэтыцыі, сябра ПБНФ і Руху «За свабоду» **Хрыстафора Жаляпава**, пасаду рэктара беларускай ВНУ ня можа займаць чалавек, са згоды якога сярод студэнтаў прапагандуюцца ідэі «русского мира». Прыводзім тэкст петыцыі.

21.02.2019 ва ўсім свеце адзначалі Дзень роднай мовы. З глыбокім абурэннем паведамляем, што ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя Машэрава, які знаходзіцца ў Беларусі і рыхтуе педагагічныя кадры для мясцовых, беларускіх школ, цэлы тыдзень праводзіліся мерапрыемствы ў гонар "родного русского языка". Іх праводзілі супрацоўнікі філалагічнага факультэта пры падтрымцы фонду "Русский мир", які дзейнічае ў Расіі і займаецца прапагандай рускай мовы і традыцый рускага народу. Несумненна, гэта рабілася са згоды рэктара ВДУ Аляксея Ягорава.

А.У.Ягораў мае юрыдычную адукацыю, і таму ён не мог не разумець, што прапаганда мовы суседняй дзяржавы ў Дзень роднай мовы - гэта дэманстрацыя антыпатрыятычных настрояў, якія, атрымліваецца, пануюць у падпарадкаванай яму вышэйшай навучальнай установе.

У гэты дзень шматлікія арганізацыі і ўстановы Рэспублікі Беларусь ладзілі імпрэзы, прысвечаныя роднай беларускай мове. Дзень роднай мовы стаў нацыянальным святам у працоўных, студэнцкіх, вучнёўскіх калектывах, і людзі падчас імпрэзаў у гонар беларускай мовы адчувалі сябе сапраўднымі патрыётамі, навучаліся ганарыцца гісторыяй і культурай Беларусі, аддавалі даніну памяці продкаў, якія ў войнах і нягодах здабылі сенняшнюю незалежнасць Рэспублікі Беларусь. І толькі віцебскі ўніверсітэт зняславіў сябе на ўсю краіну тым, што змусіў выкладчыкаў і студэнтаў услаўляць чужую мову замест роднай.

Яшчэ раз звяртаем Вашу ўвагу на тое, што ВДУ імя Машэрава рыхтуе настаўнікаў для беларускіх школ, і больш за 80% тутэйшых студэнтаў - гэта выхадцы з вёсак і райцэнтраў Віцебскай вобласці або жыхары абласнога цэнтру. Услаўленне рускай мовы ў якасці роднай у беларускай ВНУ мы расцэньваем не інакш як здзек над патрыятычнымі пачуццямі беларускага народу, як абразу нацыянальнай годнасці беларусаў.

Без сумневу, частка насельніцтва Беларусі мае права лічыць роднай мовай рускую, і навучальныя ды культурніцкія імпрэзы, прысвечаныя любым мовам свету, - гэта пазітыўная з'ява. Аднак у Дзень роднай мовы пашана павінна аддавацца менавіта ёй, а не асабістым памкненням некаторых супрацоўнікаў універсітэта лішні раз прадэманстраваць сваю адданасць "русскому міру" у любых яго праявах.

Мы патрабуем адстаўкі рэктара ВДУ імя Машэрава Ягорава А.У., са згоды якога праводзіліся імпрэзы, скіраваныя, на нашу думку, супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, і якія супярэчаць патрыятычнай плыні ідэалагічнага выхавання ў нашай краіне, рыхтуюць глебу для дэстабілізацыі ў грамадстве.

Патрабуем таксама забараніць умяшанне замежных грамадскіх арганізацый і фондаў ва ўнутранае жыццё беларускіх навучальных установаў; патрабуем забараніць размяшчэнне офісаў замежных урадавых і няўрадавых арганізацый на тэрыторыі беларускіх установаў адукацыі.

Мы хочам, каб у нашых ВНУ выхоўваліся сапраўдныя патрыёты Беларусі, а не касмапаліты з няўцямнымі поглядамі на ідэалагічна важныя складнікі грамадскага жыцця.

# ЗАПРАШЭННЕ ДА АЗЕЛЯНЕННЯ ВІЦЕБСКА

Сітуацыю з зялёнымі насаджэннямі на "Югах" працягваюць выпраўляць мясцовыя жыхары, адзін з якіх, **Аляксандр Ільінец**, распавёў пра некаторыя планы па азеляненьню свайго раёна. "Мы будзем рабіць усе магчымыя захады каб было высаджана як мага больш дрэваў, кустоў уздоўж вуліц Чкалава і Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, збіраем подпісы каб тая пустка паміж запраўкай "Белнафта" і СТА (пажадана два бакі вуліцы ад помніка да праспекта Чарняхоўскага) была засаджана дрэвамі, пракладзены вела і пешаходныя дарожкі". Ужо сабраныя першыя 100 подпісаў жыхароў Віцебска за масавую пасадку дрэваў на пустуючых пляцоўках і ва дварах.

Па выніках сустрэчы з галоўным архітэктарам горада Віцебска Ігарам Андрэевічам Кадушкам стала зразумелым, што справай азелянення гораду павінны займацца самі грамадзяне, за іх гэта ніхто не зробіць. Трэба звяртацца да спецыялістаў домакіраўніцтва, "Зеленгаса" і адміністрацыю Першамайскага раёна з патрабаваннямі высадкі дрэваў, пракладкі пешаходных і вела дарожак.

Ініцыятыва #зялёныВіцебск склалася з актыўных жыхароў Віцебска і раёна, якія прапануюць як мага хутчэй высадзіць дрэвы на ўсіх прыдатных пляцоўках горада. Але першая з мэтавых тэрыторыяў на вуліцы Воінаў-Інтэрнацыяналістаў аказалася зарэзерваванай для пабудовы грамадска-гандлёвага аб'екта і чакае свайго інвестара. А высаджваць дрэвы там немэтазгодна, таму, што інвестару прыйдзецца высадзіць у пяць разоў больш дрэваў на свабодных тэрыторыях пры забудове гэтага ўчастка. І як паведаміў галоўны архітэктар горада,, у гэтую вясну патрэбна высадзіць амаль ТЫСЯЧУ дрэваў, таму Ігар Андрэевіч параіў жыхарам горада звяртацца да домакіраўніцтваў з прапановамі паведаміць, дзе патрэбныя такія высадкі дрэваў, таксама дырэктары навучальных установаў горада могуць азеляняць сваю тэрыторыю з дапамогай супрацоўнікаў "Зеленгаса".

Аляксандр Ільінец прапанаваў ідэю высадкі дрэваў на пустуючых тэрыторыях, пракладкі вела- і пешаходных дарожак, стварэння зонаў адпачынку для дзетак і сталых людзей, спартыўных пляцовак: "Мне не падабаецца, што маладыя маці з каляскамі гуляюць уздоўж загазаваных вуліц, дыхаючы выхлапнымі газамі аўто. Будзе лепш для малых дзетак гуляцца сярод зялёных насаджэнняў, адпачываць на лавачках, якія стаяць сярод зялёных дрэваў, велааматары будуць з большым імпэтам круціць педалі сваіх веласіпедаў па дарожках, пракладзеных сярод дрэваў".

Збор подпісаў за зялёны Віцебск працягваецца, наперадзе чакаюць сустрэчы з адказнымі асобамі па месцу знаходжання участакаў, якія прапануюцца для азелянення.

Падтрымлівая ініцыятыву актывістаў па павелічэнню зялёных зонаў Віцебска, стварэнню сеткі веладарожак, якія будуць праніцаць увесь горад, і злучэнне такіх дарожак з сеткай пешаходных і веладарожак у ваколіцах Віцебска, заклікаем жыхароў горада актыўна далучацца да ініцыятывы, звяртацца да супрацоўнікаў домакіраўніцтваў па месцу пражывання і патрабаваць высадкі дрэваў у вашых дварах і іншых пустуючых месцах. Далучайцеся да працы ініцыятывы "Зялёны Віцебск" праз сацыяльныя сеткі і кантакты актывістаў.

Разам зробім Віцебск зялёным!

# ВІЦЯБЛЯНІН СТВАРЫЎ ІНТЭРАКТЫЎНУЮ МАПУ МЕСЦАЎ СТАЛІНСКІХ РАССТРЭЛАЎ

**Віцебскі актывіст Андрусь Кешанюк зрабіў першую ў рэгіёне інтэрактыўную мапу месцаў сталінскіх расстрэлаў.**

Пазначыў на ёй вёскі Паляі, Хайсы, "25-ты кілямэтар па Гарадоцкай шашы", дзе, паводле ўспамінаў старажылаў і дасьледаваньняў гісторыкаў, у 1930-я гады расстрэльвалі мірных жыхароў, паведамляе Беларускае Радыё Рацыя.

Мапа будзе дапрацоўвацца ў парадку адкрыцьця новых зьвестак пра масавая пахаваньні ахвяраў сталінскага тэрору.

Паводле Андруся Кешанюка, патрэба зрабіць гэтую мапу насьпела, бо ў апошнія гады ўзрасла цікаўнасьць да гэтага пэрыяду гісторыі, але ня ўсе ведаюць, як знайсьці жалобныя месцы.

"Нельга забывацца на тыя страшэнныя злачынствы, якія былі ў тыя гады. Гэтая мапа, напэўна, дасьць магчымасьць проста ведаць, каб на дні памяці занесьці туды кветкі. У людзей павінна быць інфармацыя, каб яны маглі туды дабрацца і нейкім чынам ушанаваць памяць", – кажа актывіст.

На інтэрактыўнай мапе Андрусь Кешанюк разьмясьціў геаграфічныя каардынаты і кароткія зьвесткі пра гісторыю адкрыцьця трагічнай таямніцы гэтых мясьцінаў. Стваральнік гатовы працягваць гэтую працу. Неўзабаве на мапе зьявяцца зьвесткі пра так званы "Цёплы лес" – яшчэ адно месца сталінскіх расстрэлаў пад Віцебскам.

# ПОЧЕМУ БЕЛОРУССКИЕ ГОРОДА НЕ СТАНОВЯТСЯ «ЗЕЛЕНЫМИ»?

Один доллар, вложенный в экологию, дает три доллара экономической отдачи. Все больше городов переходят на «зеленые» стратегии развития во всем мире, но не в Беларуси. Почему?

— В нашей стране концепция «зеленых городов» привнесена в виде нескольких проектов и имеют место попытки их частичной реализации, но не более того. Ни о каком развитии говорить не приходится, — отметил на круглом столе «Тренды «зеленого» города» эко-активист, в недавнем прошлом помощник мэра американского города Канзас-Сити **Ярослав Бекиш**.

И это происходит совсем не потому, что у Беларуси отсутствуют технологии или денежные средства на развитие экологии в городах.

—Технологий сегодня, самых фантастических, на рынке огромное количество. Бери — покупай, используй. Деньги на это без проблем можно получить у банков и международных финансовых организаций. Они предлагают специальные инвестиционные пакеты для «зеленых городов», но в Беларуси на них нет ни одного запроса, — рассказывает Ярослав Бекиш.

Проблема в том, что сама модель белорусских городов безнадежно устарела и не отвечает современным потребностям, уверен эксперт.